# ІСКРЫ ІЛЬІЧА




N 12

## ЭЛЕКТРЫЧНЫ ТРАКТАР



Раней плуг цягнуў конь, цяпер прышлі трактары.

А яшчэ прыдумалі трактары з электрычным моторам: ад слупоў працягнуты электрычныя правады да трактара, каб даць электрычны ток мотору.

Але трактар на месцы не стаіць, слупы з правадамі ня пойдуць за ім.

Прыдумалі паветраны шар.

Правады злучаюцца з паветраным шарам.

Шар падтрымлівае правады і паварачвае за трактарам направа, налева, назад, наперад.

## ПЕРШЫ САМАЛЁТ

*На малюнках:*
*Зьнізу—самалёт, якія хацелі пабудаваць людзі даўней.*
*Справа—цяперашні самалёт.*





ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ




# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

На 1 месяц . . . 15 к.
На 3 м-цы . . . 45 к.
На 6 м-цаў . . . 90 к.
На 1 год . . . 1 р. 80 к.

№ 12 сьнежань 1930

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## МАЛЕНЬКІЯ МАЙСТРЫ




*З малюнку мастака СТРУМІЛІНА.*

# ЗМАГАЙЦЕСЯ ЗА ПОЛІТЭХНІЗАЦЫЮ!

## ШТО ТАКОЕ ПОЛІТЭХНІЗАЦЫЯ?

Першы раз прышоў Міхаська ў школу. Бацька яго прывёў ды пакінуў. Аглядаецца Міхаська, дзяцей кругом многа і ўсе незнаёмыя. А пакоі вялікія, не такія, як у дзіцячым садзе. На сьценах малюнкі розныя разьвешаны, плякаты, лёзунгі. На адным малюнку двое дзяцей намалёвана, нешта каля машыны робяць. А ўнізу вялікімі літарамі напісана: **„Змагайцеся за політэхнізацыю!“**

Падышоў Міхаська бліжэй.

„Бач, якое дзіўнае слова напісана, думае ён, а мо' ня так прачытаў?“

І пачаў зноў углядацца.

„Змагайцеся за політэхнізацыю“.

Не, правільна: за по-лі-тэх-ні-за-цы-ю. Трэба, хіба, запытаць у бацькі, што гэта азначае.

Падышла дзяўчынка, з Міхаську ростам, стала побач.

— Цябе як завуць?

— Міхась. А цябе?

— Мяне Маня. А твой бацька хто?

— Мой сьлёсар. На заводзе „Энэргія“ працуе.

— Мой тата памёр, а мама працуе на фабрыцы ткачыхаю.



*Я хачу быць швачкаю.*

Падышлі яшчэ дзеці. Васіль кажа:

— Мой тата доктар. Ад хвароб розных лечыць.

— А мой інжынэр, — кажа Лявонка. — Ён на заводзе старшы.

Падышоў да дзяцей Янка.

— А мой селянін. Ён цяпер у колгасе. Ад нашай вёскі школа далёка, дык я ў дзядзькі ў горадзе жыву і вучуся.

І заспрачаліся дзеці, чыя праца лепшая, чыя самая важная і для ўсіх патрэбная.

— Лепш за ўсё быць докта-

рам,—кажа Янка.—Без дактароў ня будзе каму лячыць хворых.

—Не,—перапыніла іх Маня,— ткачыха важней. Калі яна не натчэ – вопраткі ніякай ня будзе. А бяз вопраткі прастудзіцца можна і памерці. І доктар ня выратуе.

—Нічога вы ня ведаеце,— крыкнуў Лявонка.—Самы галоўны чалавек—інжынэр. Ён усякую машыну ведае. І зрабіць яе можа, і разабраць, і наладзіць.

—Шмат твой інжынэр без рабочых зробіць!—засьмяяўся Міхаська.—Мой тата казаў, што машына без чалавека працаваць ня можа. Да машыны рабочага трэба паставіць, тады будзе толк. Значыцца, самы патрэбны чалавек—рабочы, а не інжынэр.

Заспрачаліся дзеці, закрычалі. Прыбег на крык Сяргей, павадыр.

—Што за крык? І ня брыдка вам? А яшчэ акцябраты!

Лявонка выскачыў наперад.

—Ён кажа рабочыя важней, а я кажу—інжынэр.

— А Янка кажа, што ўсе гарадзкія без сялян з голаду памруць.

—А хто Маню пакрыўдзіў?— запытаў павадыр.

—Яна кажа, што ткачыха важней за ўсіх.



*А мы будзем інжынэрамі.*

—Дык вось чаго вы спрачаецеся,—засьмяяўся Сяргей.—Ну добра, я вас паміру. Усе патрэбны для прамысловасьці. На заводах і на фабрыках патрэбны і рабочыя, і інжынэры, і шахцёры, і мэталістыя, і ткачыхі, і гарбары. А бяз працы селяніна таксама не абыдзешся.

Усёй краіне, усёй дзяржаве патрэбны дактары, каб лячыць ад хваробы, настаўнікі, каб вучыць дзяцей. Вось і выходзіць, дзеці, што ўсякая праца для нас патрэбная. Усе працоўныя прыносяць карысьць. Цяпер будзеце ведаць?

—Будзем!—адказалі дзеці.

—А павучэцеся ў школе, яшчэ больш зразумееце. Школа цяпер політэхнічная.

— Політэхнічная! — крыкнуў Міхаська,—вось яно! Я прачытаў на сьцяне, ды не зразумеў. Што за такая політэхнічная!

Павадыр Сяргей хацеў растлумачыць, але зазваніў званок на заняткі.

—Ну, дзеці, ідзеце вучыцца,— сказаў Сяргей,—а пасьля заняткаў я вам растлумачу.

## У ПОЛІТЭХНІЧНАЙ ШКОЛЕ.

У вялікім, сьветлым пакоі працавалі дзеці. Адны выразалі і клеілі з кардону цацкі, другія стругалі і пілавалі дзераваяныя дошкі, трэція плялі з вяровачак карзінкі і ткалі на невялічкім



*Мне падабаецца фізкультура. Буду фізкультурнікам.*

ручным варштаце. Настаўніца прывяла Маню, Міхаську, Лявонку, Васіля, Янку і сказала:

—Ну, дзеці, выбірайце, якая праца каму падабаецца.

—Я хачу ткаць, як мама,— зарадавалася Маня.

—А я сталярнічаць буду,— парашыў Янка.

Міхась падбег да маленькіх ціскоў, дзе працавалі другія дзеці. Лявонка папрасіў кардону і клею ды пачаў майстраваць хаткі.

—Адно навучыцеся рабіць, тады на другую работу пераходзьце,—сказала настаўніца.— Да канца навучальнага году, да вясны, вы павінны ўсё ўмець рабіць, чаму ў гэтым пакоі вучаць: і ткаць, і сталярнічаць, і рабіць усё з кардону.

—Калі ткаць навучуся, хаткі буду рабіць,—сказала Маня.

Час прайшоў неўзаметкі. Аглянуцца не пасьпелі—званок. А шкода, працу кідаць ня хочацца. Дзеці выбеглі ў карыдор. А там Сяргей стаіць.

—Ну, што, спадабалася?

—Вельмі! А ты нам даклярававаў пра політэхнічную школу расказаць...

—Што-ж вам казаць, калі вы самі бачылі.

Акружылі дзеці павадыра.

—Ня ведаеце? Ну, давайце разьбярэмся. Вы што цяпер рабілі?

—Я ткала,—сказала Маня.

—Я стругаў.

—А я жалеза пілаваў.

—Я хаткі клеіў.

—Ну вось, значыцца вы вучыліся рабіць розную работу.

—А калі навучымся адно рабіць, за другое возьмемся. Так настаўніца сказала.



*Як вырасту, буду лётнікам.*

—Правільна!—пахваліў Сяргей.—Вось гэта і ёсьць політэхнізацыя.

Слова гэта замежнае. Па-нашаму яно азначае: навык да рознай працы.

Наша школа таму і завецца політэхнічнаю, што яна прывучае дзяцей да рознай працы.

— А мама казала, што ўсе гэтыя новыя выдумкі непатрэбны,—сказаў Міхаська.—Я калі вырасту, буду мэталістым, як тата. Навошта-ж мне вучыцца ткаць?

— Кім-бы ты ні быў, калі вырасьцеш,—адказаў Сяргей,—акрамя свае работы ты павінен хоць крыху ведаць пра ўсякую работу. У буржуазных краінах, дзе фабрыкі і заводы належаць аднаму гаспадару і ўсе рабочыя працуюць на яго, рабочы акрамя свайго варштату нічога ня ведае. За яго думае гаспадар ці інжынэр.

Зусім іншае ў нас. Мы будуем социялізм. У нас кожны рабочы сам гаспадар заводу, на якім ён працуе, і ўсіх заводаў і фабрык Савецкае дзяржавы. А гаспадар павінен ведаць усё, што робіцца ў яго гаспадарцы, аб усім клапаціцца. Таму наш савецкі рабочы павінен ведаць ня толькі свой варштат, сваю машыну, але і другія машыны на заводзе. Павінен ведаць, што робіцца на другіх заводах і фабрыках.



*Ня шкодзіць навучыцца і латаць панчохі. Трэба ўсё ўмець рабіць.*

Вось бацька Міхаські яшчэ нядаўна працаваў толькі каля свайго варштату. А цяпер брыгадзір. Ударнай брыгадай кіруе. А скора, магчыма, яго вылучаць цэхам кіраваць. Потым можа дырэктарам стаць, усім заводам кіраваць будзе. Вось як! І кожны з вас, дзеці, можа так працаваць, як вырасьце. Таму і патрэбна вам да гэтага рыхтавацца. Вось дзеля гэтага політэхнічная школа і вучыць вас, як працаваць з малатком, пілою, рубанкам. А ў старэйшыя групы пяройдзеце—пашле вас школа на фабрыкі, на заводы, у колгасы, каб навучыць вас на машынах працаваць, каб з вытворчасьцю вы пазнаёміліся. І калі вы, дзеці, скончыце політэхнічную школу, будзеце добра працаваць і рукамі і галавою. Такі рабочы лёгка з усім справіцца. Ён і каля варштату будзе ўмець працаваць, з яго і дырэктар добры будзе. Ну, цяпер ведаеце, што такое політэхнічная школа і для чаго яна нам патрэбна?

— Ведаем,—адказалі ўсе дзеці. Толькі Міхаська пакруціў галавою.

— Не, я яшчэ ня ўсё зразумеў?

— Што-ж ты не зразумеў?

— А змагацца навошта?

— Як змагацца?— зьдзівіўся Сяргей.

— Там пад малюнкам у пакоі напісана: „Змагайцеся за політэхнізацыю“.

— За політэхнізацыю трэба змагацца з тымі, хто супроць політэхнізацыі. Вось, Міхаська, твая маці кажа, што сьлёсару нічога ня трэба ведаць, акрамя свае працы, а ты ёй раскажы ўсё, што тут чуў.

На некаторых фабрыках рабочыя ня пускаюць вучняў да машын. Трэба гэтым рабочым растлумачыць, навошта патрэбна дзецям політэхнічная школа Вось як трэба змагацца за політэхнізацыю.

С. Зарэчная.

КЛІМ КАЧКІН

# Брыгада Ганкі і новыя санкі.



* * *

Зашарэлі,
Паплылі
Белыя туманы.
Першы сьнег
На палі
Выпаў сёньня ўраньні.
На гары,
Ля сяла,
Новенькая школа,
Раніцою тут крык
Школьнікаў вясёлых.
Выпаў сьнег!
Выпаў сьнег!
Круцяцца сьняжынкі.
Дзеці выбеглі на двор.
Крык на перапынку.
Выбег Юзік,
Паўлюк,
Ігналёва Ганка,
Памагае Янук
Ладзіць разам санкі.
Палазы,
Палазы
З леташняга году...
Надыйшлі
Маразы,
Сьнег... рака пад лёдам.
Будуць сані,
Езьдзіць самі
Па лядку,
Па мастку,
Па сыпучым сьняжку.
Палазы,
Палазы...
Клапоціцца Ганка.
На гары
Галасы—
„Зробім свае санкі!“





* * *

Але вышаў тут да іх
Настаўнік на ганак.
Прычапіўся да малых,
Адарваў ад санак
— Гультаі вы,
Гультаі!
Гэй вы, марш за кнігі!
Перш чым санкі рабіць—
Пачытайце крыху.
Папрацуйце крыху,
А потым гулянкі.
Я вам сам дапамагу
Рабіць вашы санкі.
На заводах цяпер
Ударныя брыгады,
Усе працуюць, стаяць
Ля сваіх варштатаў.
Дык за працу і вы
Вазьмецеся шчыра.
За вучобаю мы
Будзем брыгадзіры!

* * *

— Стойце!—выскачыла
Ганка,—
Дайце слова, дзядзька
Янка.

— Я ды Наста,
Ды Аўдзей,
Ды Паўлюк з Кан-
дратам
Хутка, зараз-жа скла-
дзем
Ударную брыгаду!

Каб ня ра ціўся час
Бескарысна, марна,

Будзе кожны тут з нас
За кнігаю ўдарнік.

Буду ўдарна заўжды
Працаваць, вучыцца,

Ніхто з нашай грамады
Ня будзе пазьніцца!





* * *

Сыпле сьнег
За вакном,
Па-над школьным
садам.
Працу скончыла даўно,
Ўдарная брыгада.
Склала кніжкі за ўсіх
Акуратна Ганка.
А настаўнік з дзяцьмі
Ужо канчае санкі.
Вось гатовы!
— Сядай!

Дзеці пасядалі.
— Ну, кранай!
Паддавай!
Што вы, сані, сталі?
Сеў настаўнік,
Паўлюк,
Села Наста, Ганка,
І Аўдзей, і Янук
Селі ў тыя санкі.
Адпіхнуліся...
— Ура!..



Эх, як паляцелі!
Адплывае гара.
Круціцца мяцеля.



А. НЯВЕРАЎ



# АРТЫСТЫЯ

У школе зімою настаўніца тэатр наладзіла для вучняў. Вучні, большыя артыстымі былі. Валодзька Паўлюкоў дзедам быў, Волька Рыгорава — бабаю, а Ганначка Патапава — салдатам. Вышлі яны ўсе трое, пачалі гутарыць. Народ увесь слухае іх, сьмяецца. Хадзілі туды і Сымонка з Паўлікам, вельмі спадабалася ім. Пасьля Сымонка кажа Паўліку:

— Давай самі наладзім „Тэатр“.

Паўлік запытаўся:

— А як мы яго наладзім?

Сымонка сказаў:

— Я ведаю як. Бачыў ты ў іх — посьцілка вісела. Мы таксама павесім вось тут коўдру. Ты будзеш бабаю, я — дзедам. Манька наша будзе салдатам.

Паўлік запытаўся:

— А хто будзе слухаць?

— Дзяцей паклічам, усе пойдуць.

Так і парашылі. Дасталі кудзелі, пачалі бараду рабіць. У кутку павесілі коўдру. Паўлік адзеў бабін каптан, на галаву завязаў бабіну хустку. Сымонка прычапіў сабе бараду з кудзелі, як у дзеда, кіёк у рукі ўзяў, кашляе, як дзядок. Манька адзела

Паўлікаву рубашку, штаны і Сымонкаву шапку. Сьмешная стала. А Сымонка кажа:

— Цяпер ня дурэйце, мы — артыстыя!

На падлозе каля коўдры дзеці паселі: Міколка, Марылька, Петрык. Насамі шморгаюць, чакаюць. Паднялі коўдру за вяровачку, глядзяць: а перад імі дзед з барадою. Такі страшны і палкаю стукае. Марылька з Міколкам напалохаліся, а Петрык нават заплакаў, уцячы хацеў. А калі даведаўся, пашто гэта Сымонка артыстым прыбраўся, дык і пасьмялеў.

Тут і Паўлік вышаў прыбраны бабаю, кажа да Сымонкі бабскім голасам:

— Дзед, давай з табою вячэраць.

А Сымонка сярдзіта на яго:

— Пачакай крыху, старая, з вячэраю — сын прыдзе.

Вышла Марылька ў Паўлікавай шапцы, крычыць:

— Я вячэраць ня буду, на сход пайду.

Сядзяць дзеці на падлозе, слухаюць з разяўленымі ратамі. Раптам ускочыла Марылька, крычыць:

— Сымонка, барада разьвязалася!

Усе пачалі сьмяяцца з Сымонкавай барады і прагулялі так увесь дзень.






**Апавяданьне К. ДМІТРАВАЙ**

**Малюнкі САМАТЫЯ**

Прывяла маці маленькую Ганку ў дзіцячы сад. Дзяўчынка трымаецца за руку маткі, ня пускае. Дзяцей у садзе многа, многа. Ніколі яшчэ Ганка ня бачыла гэтулькі дзяцей. Усе такія-ж маленькія, як і Ганка. Дзеці скідаюць вопраткі, вешаюць іх на асобныя кручкі.

Дзеці клічуць Ганку, кіраўнічка Каця падышла да яе. Але дзяўчынка хмурыцца, нібы баіцца ўсіх.

— Ганначка, глядзі, што мы тут робім,—паказвае Жэнька малюнкі.

— А вось, што ўчора выляпілі, глядзі!—сьпяшаецца пахваліцца Ліда.



Пакуль Ганка цікавілася работаю дзяцей, маці вышла. Глядзіць дзяўчынка на дзьверы,— няма маткі. „Дзе-ж мама? Хаця-б дахаты хутчэй пусьцілі...“

Тут кіраўнічка Каця раптам моцна, моцна крычыць:

— Ну, санком, агледзь усіх дзяцей і зоймемся работаю.

Санком пачаў уважна аглядаць усіх дзяцей, падышоў і да Ганкі.

— Пакажы вушы?—Чыстыя. Ну, а шыю?—Таксама чыстая. —А рукі?—Усе пальцы чыстыя, а вось мезенны брудны,—кажа санком.



— Я ўчора не дала маме яго абрэзаць,—адказвае Ганка.

— Ну, сёньня няхай так, а ўжо заўтра, калі прыдзеш зноў з брудным кепцем, на санітарным лістку тваім зробім паметку,—сказала кіраўнічка Каця.

— У нас усе павінны быць чыстымі, кожны дзень дзяжурны санком аглядае,—важна заявіў Юрка.

— Скора дахаты пайду?—ціха запытала раптам дзяўчынка.





— Ты-ж толькі-што прышла. Вось зараз працаваць будзем, ты прывыкнеш і табе спадабаецца,— сказала кіраўнічка.— Садзіся тут і я табе дам работу.

Чаго толькі Ганка ня ўбачыла! Чаго толькі дзеці не рабілі ў дзіцячым садзе! І малявалі, і клеілі, і ляпілі, і выразалі. Усё было так нова, цікава. Пасьля работы была вясёлая пагулянка, потым усе сьнедалі, адпачывалі.

Калі маці прышла па Ганку, яна не хацела ісьці адгэтуль.

— Дома сумна... работы няма... гуляць няма з кім,—скардзілася Ганка.

— Заўтра зноў прыду сюды?—недаверліва запыталася Ганка.

— Але, цяпер кожны дзень будзеш хадзіць у дзіцячы сад,—сказала кіраўнічка Каця.

— Вось добра. Як я рада!—сказала Ганка і, разьвітаўшыся, вясёлая пашла з маткаю дахаты.



# Іскры Ільіча

*Верш* ЯКУБА КОЛАСА
*Малюнак* РОЗАНАВА

У пасьцельку легла Ганя.
Кончан дзень, заснуць пара.
Ноч у вычварным каптане
Ціха крадзецца з двара,
І цікуюць зоры з вышкі
Сінявокай грамадой,
А ў Ганусі, у малышкі,
Думак, мар, малюнкаў рой.
Быў цікавы дзень бяз меры—
Сонца, яснасьць, цяплыня!
А лепш за ўсё—піонэры
І іх забаўкі, гульня!
Скуль іх столькі—дзіва Гані—
Ну, бы макаў агарод!..
І малыя, а ўжо зраньня
Правялі ў колгасе сход!..
Былі песьні, пагулянкі—
Не засьне ніяк дзяўча!
А якія ў іх чытанкі,
Кніжкі „Іскры Ільіча“!
Там і вершы, і расказы
Пра комуну, пра колгас,
І рысункі, і паказы,
Як і чым запоўніць час...
Ціш і сон вакол маўклівы,
А ў Ганусіных вачах
Піонэрскі тлум шчасьлівы
І іх „Іскры Ільіча“.

*7/XII—30 г.*



# Угосьці да шэфаў

*Апавяданьне Р. ШАТЭРНІКА* *Малюнкі САМАТЫЯ*

Над групаю акцябрат імя Крупскай узяў шэфства батальён Н-скай дывізіі. Кожны тыдзень прыходзілі чырвонаармейцы да сваіх падшэфнікаў, акцябрат. Яны расказвалі дзецям пра сваё жыцьцё, вучылі іх страляць.

Янку—самаму меншаму з дзяцей—ужо даўно хацелася хоць раз стрэліць. Сёньня ён ня вытрымаў. Падышоў да аднаго з чырвонаармейцаў і папрасіў:

— Дзядзька, дайце мне раз стрэліць.

Чырвонаармеец узяў маленькую стрэльбачку і даў Янку. Цэліцца сказаў Янку ў Чэмбэрлена, які быў намалёван на кардоне.

Доўга ня думаючы, Янка прысеў на калені і прыцэліўся ў самае вока Чэмбэрлена.

Пачуўся стрэл. Дзеці роем кінуліся глядзець, ці пацэліў. Але ніякай адзнакі кулі ня было. Янку стала брыдка. Ён чуць ня плакаў.

— Дарма, як вырасьцеш ды пойдзеш у Чырвоную армію, дык навучышся страляць добра—усьцешыў Янку чырвонаармеец.

— Ну, дзеці, прыдзеце заўтра да нас у госьці. Мы вам пакажам кулямёты і гарматы,—сказалі, адыходзячы, чырвонаармейцы.

Назаўтра зранку ўсе дзеці зьбіраліся да чырвонаармейцаў. Чуліся вясёлыя крыкі, шум. А праз поўгадзіны стройнымі радамі з сьцяжкамі ў руках, з песьнямі ішлі дзеці ў госьці да сваіх падшэфнікаў—чырвонаармейцаў. Наперадзе ішоў Янка і весела крычаў: аць—два, аць—два!





Дзяцей спаткалі чырвонаармейцы. Павялі іх у сваё памяшканьне. Там стаіць шмат-шмат ложкаў. Усе яны чысьценька прыбраны. На сьценах вісяць портрэты Леніна, Сталіна, Варашылава. Потым чырвонаармейцы павялі дзяцей паказаць ім гарматы. Каля гарматаў стаяў вартавы чырвонаармеец з вінтоўкаю. Калёсы пад гарматамі вялікія, вялікія. Самы большы з дзяцей, Юзік, пробаваў рукою дастаць верх кола, дык дзе там...

— Вось гэта гарматы,—пачаў тлумачыць дзецям камандзір.— Яны цяпер стаяць спакойна. Але калі нашы ворагі—капіталістыя спрабуюцьісьці на нас вайною, дык гэтыя гарматы зараз-жа будуць накіраваны супроць іх.

— А чым з іх страляюць?—запыталася Гэлька.



— Для гэтага ёсьць такія вялізныя кулі,—адказаў камандзір.

І адзін з чырвонаармейцаў паказаў дзецям кулю ад гарматы. Вялікая гэта куля. Завуць яе знарад.

Дзеці ўважліва аглядзелі гарматы. Янка нават пальцам дакрануўся да аднае з іх. Потым паказалі дзецям кулямёты. Яны былі шмат меншыя за гарматы. Страляюць з іх такімі-ж кулямі, як і з вінтоўкі.

Калі ўсё было агледжана, дзеці папрасілі чырвонаармейцаў навучыць іх сьпяваць вайсковыя песьні. Чырвонаармейцы навучылі дзяцей сьпяваць марш „Будзённага“.

— А хто такі Будзённы?—запыталі ў дзяцей чырвонаармейцы.

— Я ведаю. Гэта чырвоны камандзір,—адказаў Юзік.

— А ці ведаеце вы Варашылава?

— Мы яго нават бачылі. Гэта той, што на кані верхам едзе. У нас у садзе ёсьць партрэт яго. Гэта чырвоны камісар. Калі я вырасту, дык пайду ў Чырвоную армію і буду чырвоным камандзірам,— моцна адказаў Янка.

Дзеці, здаволеныя, вышлі ад сваіх гасьцей. Наперадзе зноў ішоў Янка і ў ногу зацягваў чырвонаармейскую песьню.



# Песьня трамвая

*Верш*
ЗЬМІТРО ВІТАЛІНА




Дзын-дон!
Я—трам-
вай!
Дзын-дон!
Уця-
кай!
Толькі раніца
Займецца,
Сонца ўзыйдзе,
Засьмяецца,—
Я ўжо лётаю,
Званю я,
І з натоўпамі
ваюю.
Дзын-дон!
Я—трам-
вай!




Дзын-дон!
Уця-
кай!
І да самай аж
паўночы
Буду я вазіць
рабочых.
І у школу,
і са школы
Вас вазіць—
дзяцей вясёлых!..
Дзын-дон!
Дзын-дзень!
Я лятаю
цэлы дзень!
Дзын-дон!
Я—трам-
вай!
Гэй, рамізьнік,
уця-
кай!




Птушкі прыносяць вялікую карысьць. Яны зьнішчаюць розных палявых шкоднікаў—казюлек, чарвякоў, якія псуюць ураджай.

На зіму птушкі ляцяць у вырай. Але ня ўсе. Частка іх застаецца зімаваць у нас. Зімою птушкам дрэнна жывецца. Ім цяжка даставаць яду. А ці дапамаглі вы ім? Калі не, дык зараз-жа пабудуйце кармавы столік для птушак. Вазьмеце невялікую гладкую дошчачку, з боку прыбеце маленькія планачкі таб, как яда ня ссыпалася далоў. Калі такога століка вы зрабіць ня зможаце, дык вазьмеце невялічкую скрынку з нізкімі сьценамі. Яна таксама можа служыць кармушкай.

Калі пад вокнамі ў вас ёсьць дрэвы, прымацуйце кармавы столік на нізкіх сучкох. Калі-ж у вашым раёне многа птушак і яны не баяцца людзей, дык лепш кармавы столік прыбіць да вакна, каб праз вакно можна была наглядаць за птушкамі. У кармушкі трэба штодзенна класьці сьвежую ежу. Калі ёсьць у вас авёс, пшаніца, каноплі, ці жыта, дык зьмяшайце ўсё гэта і насыпце ў кармушкі. А калі гэтага няма, дык кармеце птушак крошкамі хлеба, кашы, якія застаюцца ад абеда.

Птушак ня прыдзецца доўга чакаць, яны зараз-жа прыляцяць да кармушкі. Першымі будуць, мабыць, вераб'і. Іх таксама трэба добра карміць, бо і яны зьнішчаюць шкоднікаў. Праўда, улетку яны часамі ляцяць на агарод, але гэта не бяда. Верабей шмат ня зьесьць ды яго лёгка сагнаць з агароду. З кармушкі вераб'ёў не зганяйце.

За вераб'ямі прыляцяць сініцы. Для іх у кармушку кладзеце і кавалачкі мяса.

Весела будзе назіраць як ядуць птушкі. А разам з гэтым вы зробіце вялікую карысьць. Менш птушак загіне зімою ад голаду. Больш іх застанецца. А значыцца, больш будзе вартаўнікоў колгасных палёў ад шкоднікаў ураджаю—розных жучкоў, мошак, чарвячкоў.





# ШКОДНІКІ

Адчынілі бляшанку з консэрвамі. Там, заместа мяса,—шкуры, гразь, атрута. А рабочы прышоў з заводу і хацеў есьці. Траха не атруціўся.

Хто зрабіў такія консэрвы? Адказалі з заводу:—„консэрвы робіць машына. У машыну кідаюць мяса, сала,—нажы усё гэта рэжуць. Машына кладзе мяса ў бляшанкі, машына-ж іх і закрывае“.

Пачалі аглядаць у магазыне бляшанкі. Ва ўсіх іх—шкура, гніль, атрута.

Пазванілі ў Дзяржаўную Палітычную Управу.

— Адкуль атрута?

Адказалі з заводу:

— Мы мяса атрымліваем з саўгасаў. Прывозяць яго па чыгунцы. У бляшанках—мяса быкоў.

Рабочыя адказалі:

— Ды ня мяса быкоў, а гнілая шкура і кішкі.

Страціўся сьлед—хто рабіў?

Рабочыя сказалі:

—Самі паглядзім, хто нас хоча атруціць.

І высьветлілася.—Сядзяць у розных установах, якія кіруюць мясною гаспадаркаю, былыя генэралы, былыя людзі.

Была рэволюцыя. Хто ўцёк заграніцу, хто зьняў генэральскую шапку і адзеў рабочую, каб яго не пазналі. І стаіць цяпер такі былы генэрал на заводзе, і камандуе кідаць у машыну ўсякую гніль.

Нядаўна Дзяржаўная Палітычная Управа выявіла гэтых шкоднікаў і расстраляла іх.

А ў Англіі, у Францыі сядзяць былыя царскія генэралы і пішуць у газэтах розныя паклёпы: „У Расіі ДПУ забівае людзей. Скора ў Расіі людзей зусім не застанецца“.

Рабочы ведае—у СССР і машыны будуць працаваць, і людзі будуць жыць. Але з такімі ворагамі, хто нам шкодзіць і хоча зьнішчыць наша соцыялістычнае будаўніцтва, мы будзем бязьлітасна змагацца.

*Нядаўна ў Маскве ДПУ выкрыла новую організацыю нашых ворагаў. Гэта організацыя складалася з старых інжынэраў, якія раней працавалі ў капіталістых былой Расіі. Яны дапамагалі прыгнятаць і самі прыгняталі рабочых. Іх організацыя называлася „прамысловай партыяй". Яны хацелі зьнішчыць савецкую ўладу і нашую краіну прадаць замежным буржуям. Імі кіравалі і дапамагалі ў гэтым замежныя капіталістыя.

Гэтыя шкоднікі на судзе прызналіся аб тым, што хацелі зьнішчыць уладу рабочых і сялян, што хацелі ў моры крыві затапіць рабочых і сялян, зьнішчыць соцыялістычнае будаўніцтва.

А ў Беларусі ДПУ выкрыла шкодніцкую нацыянал-дэмократычную організацыю. Гэта організацыя таксама шкодзіла працоўным будаваць соцыялізм. Яна хацела зьнішчыць Савецкую Беларусь, і зрабіць з яе буржуазную Беларусь, дзе-б улада належала не рабочым, як цяпер, а буржуям, капіталістым, кулаком.

Рабочыя, сяляне і іх дзеці патрабуюць суровага пакараньня ўсім гэтым шкоднікам. І савецкая ўлада не дазволіць шкоднікам контр-рэволюцыянэрам зьнішчыць соцыялістычнае будаўніцтва. Верны вартавы—ДПУ цьвёрда абараняе заваёвы Кастрычніка, цьвёрда абараняе пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва.



# З чаго зрабіць карандаш




*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*



Разгаварыўся аднаго разу бацька з дзецьмі аб тым, як і з чаго робіцца карандаш. Бацька—рабочы і працуе на карандашнай фабрыцы.

— Гісторыя карандаша вельмі цікавая,—сказаў бацька.—Ёй не адзін мільён гадоў...

— Мільён гадоў?!—закрычалі дзеці.

— Вельмі, вельмі даўно гэта карандашная, палачка была часткаю вялізарнага дрэва, падобнага на цяперашні папаратнік. Але паверхня зямлі зьмянялася. Дзе была зямля, з часам стала мора і—наадварот. Ад такіх зьмен на зямлі наша дрэва разам з многімі другімі дрэвамі было засыпана ў зямлю. Праходзілі тысячы, сотні тысяч гадоў і пахаваныя дрэвы паступова ператварыліся: частка ў каменны вугаль, а частка—у графіт.



— Вось дык штука!—ня вытрымаў Сяргей.—А як цікава!

— Слухайце-ж далей. Каб дастаць з зямлі графіт, капаюць шахты (такія глыбокія студні). Адтуль графіт дастаюць і развозяць па фабрыках.

— І робяць карандашы,—дадала Верка.

— Не, гэта робіцца ня так проста. Кавалкі графіту мелюць машынай у парашок і прасяваюць праз цэлы рад сітаў. Потым размочваюць яго ў вялікіх драў-

ляных цаброх. Атрымліваецца графітная маса. Яе зьмешваюць з глінай.

— А нашто гэта?

— Каб карандашныя палачкі ня так скора ламаліся, мешаніну з гліны і графіту праціраюць у асобных машынах. Потым выліваюць у высокія сталёвыя трубы, з вузкім праходам зьнізу.

З гэтых труб карандашная маса выціскаецца ў выглядзе тонкай ніткі. Калі яна высахне, дык яе рэжуць на часткі, патрэбныя для карандашоў. Але гэта яшчэ ня ўсё.

— Ня ўсё?—зьдзівіліся дзеці.—Што-ж яшчэ?

— Гэтыя палачкі кладуць у вельмі гарачыя печы, а потым іх вараць у мешаніне з масла, воску і стэарыну. Пасьля гэтага застаецца толькі ўсадзіць палачкі ў дрэва.

— А як гэта робіцца?

— А вось як. На фабрыку прывозяць бярвеньні. Бярвеньні гэтыя расьпілоўваюць на дошчачкі. Потым дошчачкі прапушчаюць праз такія варштаты, якія робяць у іх раўчучкі для карандашных палачак. Другія-ж машыны змазваюць гэтыя дошчачкі клеем і адсоўваюць на доўгія сталы. Тут стаяць рабочыя. Яны кладуць у раўчучкі дошчачак, змазаныя клеем, карандашныя палачкі і накрываюць зьверху другімі такімі-ж дошчачкамі. Калі склееныя дошчачкі высахнуць, тады машынамі іх абстругваюць: робяць іх круглымі або кантовымі і ставяць пячатку. Вось і ўся работа.

Карандаш гатоў.







# МАЛПЫ



**ПАВІЯНЫ**. Яны самыя вялікія малпы.

У Маскве ёсьць вялікі зьвярынец.

Самае вясёлае месца ў зьвярынцы, гэта — клетка з малпамі. Зьверху клеткі спушчаны вяроўкі, гушкалкі, драбіны, стаяць доўгія калы і сухія дрэвы, па якіх малпы скакаюць і лазяць.

Маскоўскі зьвярынец стараецца для кожнае жывёлы наладзіць жыцьцё так, каб яно было падобным на жыцьцё на волі, на бацькаўшчыне.

Малпы жывуць у цёплых краінах, у дзікіх густых і вялізных лясох. Там густа перапляліся галіны дрэў. Малпы, зьбіраючы арэхі і плады, пераскакваюць па галінках з дрэва на дрэва.

Пабудова цела малпы такая, што яна можа жыць на дрэвах. Сваімі нагамі і хвастом малпы хапаюцца за сучкі і галінкі. Хвост служыць ім рулём. У некаторых відаў малпаў доўгі хвост замяняе пятую руку. Хвастом малпы чапляюцца за галінкі і вісяць на іх.

Жывуць малпы цэлымі стадкамі. У іх ёсьць важак. Калі адна з іх заўважыць небясьпеку, дык моцна крычыць і ўвесь стадак борзда хаваецца ў гушчы дрэў. Па зямлі малпы ходзяць няспрытна і куды маруднней, чым па дрэвах.

Вострымі зубамі яны лёгка пракусваюць цьвёрдую лушпіну арэхаў, адгрызаюць моцныя галінкі.

Малпы на бацькаўшчыне робяць вялікую шкоду жыхаром. Яны нападаюць на палеткі, крадуць і топчуць расьліны.

Для таго, каб малпы маглі набраць яды ў запас, у іх ёсьць за шчакою мяшочкі. Яны завуцца зашчочнымі мяшочкамі.

Малпы могуць напхаць шмат зярнят ці пладоў у гэтыя мяшочкі і потым, схаваўшыся ў цёмны куточак, ціханька ўсё зьядуць.

Вось весела скачуць у клетцы розныя малпы. Іх тут штук дзесяць. Усе яны вельмі маленькія. Рыжанькія, самыя вёрткія—завуцца **макакі**.

У іх доўгія хвасты, за якія яны ўвесь час цягаюць адна другую. Варта толькі адной з іх узьлезьці на вяроўку, як другая чапляецца за яе хвост і вісіць у паветры.

Акрамя макак, тут ёсьць шэранькая малпачка без хваста. Гэту завуць **Пуйс**.



**ШЫМПАНЗЭ**. Жыве яна ў Афрыцы. Ростам бывае $1^1/_2$ мэтры.



**ГВЭРЭЦА.** Гэта самыя прыгожыя малпы. Жывуць яны малымі чародкамі.

Пуйс дужэйшая за макак, б‘е іх, і макакі стараюцца дагадзіць пуйсам.

Адна пачэша ёй за вухам, другая прынясе моркаўку.

Вось адзін з гледачоў даў малпачцы люстэрку. Пуйс убачыла ў люстэрцы моркаву, якую трымала макака, што сядзела ззаду. Яна хацела схваціць моркаўку ў люстэрцы, але пабіла сваю руку і ўзлавалася. Кінула люстэрку і пачала ганяцца за макакамі, якія рассыпаліся ў розныя бакі. Урэшце адна малпачка раскусіла люстэрка і шклом параніла сабе рот.

Макакі вельмі любяць шукаць адна ў другой блох. Пацешна глядзець як маленькія малпачкі сядзяць парамі, разграбаюць шэрсьць адна ў другой, ловяць блох і грызуць іх зубамі.



**АИЭ-АЙЭ.** Гэтыя малпы жывуць на востраве Мадагаскары Ростам яны з хатнюю кошку.

Адзін раз у зьвярынцы здымалі зьвяроў для кіно.

У вялікую клетку з малпамі ўвайшлі людзі з апаратамі. Малпачкі ад страху забраліся пад самую страху і адтуль глядзелі на людзей. Разам з апаратам у клетку ўнесьлі шкураныя торбачкі з рознымі прыладамі для здымкі. Людзі пачалі наладжваць апарат. То адзін, то другі прыходзілі, адчынялі торбачкі і бралі трубкі і каробкі. Гэтыя торбачкі зацікавілі малпаў. Ціха спусьціліся яны па вяроўках да торбачак. Вось адна падняла накрыўку і зірнула ў торбачку. Другая дастала трубку і пачала круціць яе перад носам. У гэты час адзін здымшчык адвярнуўся. Малпа зараз-жа палажыла трубку на месца і ўсе рассыпаліся ў розныя бакі.



**ДАЎГАПЯТ-ЗДАНЬ.** У гэтых малпаў вельмі вялікія вочы. Самі яны невялікія.

Кормяць малпаў рысавай кашай з цукрам. Даюць яшчэ яблыкі, моркаў, вараную бульбу, буракі, цыбулю, разынкі.

Ядуць малпы вельмі цікава: бяруць страву ў рукі і, як чалавек, адкусваюць кавалачкі. У час яды яны часта б‘юцца, адна ў другой крадуць смачную яду.

У Менску адкрылася выстаўка зьвяроў. Гэтую выстаўку арганізаваў зьвярынец Маскоўскага дзяржаўнага цырку. На выстаўцы ёсьць многа цікавых зьвяроў, ёсьць і клетка з малпамі.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная зьмена“

Рэдактары: Гайдукевіч. Якімовіч А.

ЦАНА 18 кап.

# ВЯСЁЛАЯ ПРЫГОДА



Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2789 Тыраж 5575 Галоўлітбел № 3655